# Працягваецца афіцыйны візіт беларускай дзяржаўнай дэлегацыі ў Амерыку

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№145 (658) 23 ліпеня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Очередная встреча минской группы СБСЕ по проблеме мирного урегулирования в Нагорном Карабахе началась вчера в Риме под председательством итальянского дипломата Марио Раффаэлли.**

На нынешнем раунде римской встречи предполагается заслушать доклад М.Раффаэлли о его поездке в Ереван, Баку и Степанакерт и обменяться мнениями о развитии ситуации вокруг Нагорного Карабаха.

❑

**Как сообщила литовская газета "Республика", вице-министр иностранных дел В.Домаркас представил комитету сейма по иностранным делам Альфонсаса Авгулиса как возможного посла Литвы в Беларуси.**

Сегодня А.Авгулис, происходящий, кстати, из белорусских Гервят и много делающий для тамошнего литовского населения, является членом Государственной комиссии региональных проблем.

❑

**Совет Министров Беларуси утвердил Положение об обучении в Беларуси иностранных граждан.**

Согласно этому документу, прием в учебные заведения республики должен осуществляться независимо от расовой и национальной принадлежности, пола, языка, отношения к религии.

❑

**Вчерашняя ночь в Сухуми прошла относительно мирно, сообщило Грузинское информационное агентство. Однако, по его данным, примерно с 10 часов утра начались ожесточенные бои в направлении сел Шрома—Ахалшени.**

Как сообщили в пресс-службе Верховного Совета Абхазии, накануне грузинская артиллерия вела огонь по населенным пунктам Шрома, Каманы, Псырцха, Новый Афон, а также позициям абхазских войск.

❑

**Приказ министра обороны Украины о статусе ядерных объектов свидетельствует о том, что Украина уже фактически объявила себя ядерным государством, сказал министр обороны России Павел Грачев.**

Павел Грачев высказал сомнение, что украинские военные сумеют сами провести все необходимые организационно-технические мероприятия, связанные с функционированием объектов "С".

ВКЛ ВЫКЛ

АТТРАКЦИОН «ДОРОГА К РЫНКУ»

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Лучшая защита — нападение?

**Из Киева в столицу Грузии прибыла группа бойцов военизированной националистической организации Украинская народная самооборона.**

В аэропорту Борисполь заместитель командира УНСО Дмитрий Корчинский заявил: "Для того, чтобы не пролилась кровь в Крыму и Донбассе, сейчас необходимо воевать в Абхазии на стороне Грузии". По последним данным, в районе боевых действий находится больше ста боевиков из Украины. УНСО продолжает официально утверждать, что их бойцы используют оружие исключительно с целью самозащиты.

### Работенка-то пыльная!

**Объединение "Воркутауголь" прекратило отгрузку угля потребителям, не выплатившим деньги за полученную в первом полугодии продукцию.**

Как заявил директор по производству объединения "Воркутауголь" Виктор Голиков, "руководители объединения требуют от правительства России увеличения дотации или отмены свободных цен на уголь". "Если правительство не сделает этого в ближайшие дни, шахтеры остановят металлургическую и машиностроительную промышленность России", подчеркнул он.

### Америку наводнили не только иностранцы

**Сотни домов оказались затопленными в южной части города Сент-Луис (штат Миссури).**

Бурные потоки воды реки Миссисипи, уровень которой поднялся в этот день до рекордной отметки, прорвали аврально сооруженную из мешков с песком плотину протяженностью более полутора километров. Как сообщили местные власти, ситуация в настоящее время в этом районе критическая.

В результате сильных наводнений в штатах Среднего Запада, которые начались еще в середине июня, погиб 31 человек.

### Этот день может войти в историю

**Переговоры по боснийскому урегулированию с участием лидеров трех конфликтующих сторон — мусульманской, сербской и хорватской — начнутся в Женеве сегодня.**

Темой предстоящих консультаций станет обсуждение различных аспектов боснийского урегулирования, включая будущее государственное устройство республики.

Лорд Оуэн в интервью британской телекомпании заявил, что лидеры боснийских мусульман, сербов и хорватов заверили его, что военные действия будут прекращены на время мирных переговоров в Женеве.

**Константин ПРИБЫТКОВ.**

### Спорт-экспресс

Белорусский голкипер Геннадий Тумилович, имевший виды на футбольный клуб "Спартак", не подошел московской команде и сейчас находится в Минске.

❑

На Универсиаде-93 в Буфалло (США) мужская сборная Беларуси по спортивной гимнастике заняла всего 9-е место. У Виталия Щербо — две золотые, одна серебряная и одна бронзовая медали.

### Пять миллионов за жизнь

**Пять миллионов рублей — так оценена российскими властями жизнь белорусского парня Сергея Сыча, который героически погиб на таджикской границе.**

Речица проводила в последний путь старшину сверхсрочной службы со всеми воинскими почестями. Но многие так и не нашли ответа на больной вопрос: чьи же идеалы отстаивал и какие рубежи защищал до последней капли крови наш земляк?

**Виктор КОТОВ.**

### Плакали звезды?

**В Бресте на территории военного городка Южный вечерний наряд милиции имел неосторожность остановить автомобиль начальника штаба дивизии и завести разговор по поводу нетрезвости (за рулем находился сержант).**

Вызванная рота десантников восстановила поруганную честь отца-командира, лишив милиционеров девственной чистоты лиц, нескольких зубов и погон. Дело принято к производству военной прокуратурой.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Отфутболили?

**Вещевой рынок, расположенный на самом большом стадионе Беларуси, "Динамо", будет перенесен в район 4-й ТЭЦ на окраину Минска.**

Туда же должен переехать авторынок с Партизанского проспекта.

Горисполком ведет переговоры об отводе 16—18 гектаров земли. На месте выработанного карьера фирма "Интекс" пообещала обустроить площадку для нового рынка.

**Наталья ГРИБ.**

### Паршивая овца все стадо портит

**Настоящая облава была устроена на днях на валютчиков в Минске.**

При активном участии ОМОНа буквально в считанные минуты отделение милиции на Комаровском рынке было заполнено долларами, марками. Как удалось выяснить, операция проводилась не только из-за нарушения правил валютных операций. Республика буквально завалена фальшивыми долларами, к чему приложили руку и валютчики. По имеющимся сведениям, часть валютчиков не против оказать правоохранительным органам определенную помощь в поимке "паршивых овец", из-за которых они провели несколько часов в тесной клетке для задержанных.

**Максим ТРАПЕЗНИКОВ.**

### Даниэла покорила скромностью

**Всего один день пробыла в столице Беларуси исполнительница роли главной героини — Даниэлы — в телесериале "Мачеха" мексиканская актриса Мария Сорте.**

Перед отлетом на родину она дала концерт для своих белорусских поклонников. Даже здесь, по утверждению почитателей таланта актрисы, проявилась скромность "Даниэлы": билеты на концерт стоили дешевле, чем у других заезжих кинозвезд за подобные выступления, — всего лишь от тысячи до тысячи семисот рублей.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

# Злучаныя Штаты і незалежная Беларусь: першае спатканне

## Аглядальнік "Народнай газеты" Павел СТАСЕВІЧ перадае з Вашынгтона

### 1. Добрай раніцы, Амерыка!

21 ліпеня ў 6 гадзін 15 хвілін па мясцоваму часу ТУ-154, на якім ляцела наша дэлегацыя, прызямліўся на аэрадроме ваеннай базы Эндрус, што за некалькі дзесяткаў міль ад амерыканскай сталіцы.

Пасля кароткай цырымоніі сустрэчы, на якую прыбылі беларускія дыпламаты, што працуюць зараз у ЗША, і адказныя супрацоўнікі адпаведных амерыканскіх служб, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч з жонкай, а таксама іншыя члены дэлегацыі на верталёце вылецелі ў Вашынгтон.

Яны размясціліся ў "Блэйр хаўз" — афіцыйнай рэзідэнцыі прэзідэнта Біла Клінтана, якая знаходзіцца на цэнтральнай Пенсільванія-авеню насупраць Белага дома, дзе звычайна спыняюцца кіраўнікі замежных дзяржаў і ўрадаў. Як заўсёды ў такіх выпадках, у гонар гасцей перад "Блэйр хаўз" узняты іх нацыянальны сцяг, на гэты раз — бел-чырвона-белы.

Пасля кароткага адпачынку пачалася работа па ўзгодненай праграме візіту.

### 2. Вярхоўны Савет — Капітолій: ці трывалым будзе мост паміж двума "берагамі"?

Ніводны будынак у Вашынгтоне не павінен быць вышэй за Капітолій — месца знаходжання Сената і Кангрэса.

Менавіта ў гэтую "кузню", дзе куецца і гартуецца амерыканская дэмакратыя, з самага ранку і былі запрошаны члены афіцыйнай дэлегацыі: спачатку снеданне, а затым і размова з групай сенатараў па шырокаму колу праблем.

Апоўдні, ужо ў "Блэйр хаўз", пачалася сустрэча з саветнікам прэзідэнта Біла Клінтана па краінах СНД Толбатам.

Затым тут жа, у рэзідэнцыі, адбыўся "рабочы ланч" з групай амерыканскіх бізнесменаў.

Тэма грошай, інвестыцый, бізнесу, рыначнай эканомікі і г.д. была прадоўжана і ў час сустрэчы з міністрам фінансаў ЗША Бетсанам.

Аб змесце і выніках (гэта галоўнае) сустрэч і перамоў пакуль што можна гаварыць толькі збольшага і ў агульных рысах. Яны да пары не афішыруюцца, а беларускім журналістам працаваць "каля Белага дома" даводзіцца ў даволі-такі жорсткіх рамках.

Магу толькі сказаць, што галоўным днём візіту была, па плану, пятніца, калі ў Белым доме мелася адбыцца афіцыйная цырымонія сустрэчы і "рабочага снедання" Біла Клінтана са Станіславам Шушкевічам і некаторымі членамі нашай дэлегацыі.

Але толькі што стала вядома: загінуў лепшы сябар прэзідэнта і многія планы ламаюцца, так што сустрэча з С.Шушкевічам адбудзецца ў чацвер, у 15.00 па мясцоваму часу. Але аб гэтым ужо перадам у наступным рэпартажы.

❑

**Рэдакцыя атрымала таксама паведамленне ІТАР-ТАСС.**

У ім гаворыцца, што прадстаўнік кіраўніка федэральнага фінансавага ведамства Бентсан павіншаваў госця з Беларусі з чакаемым 28 ліпеня аб'яўленнем Міжнароднага валютнага фонду аб прадастаўленні першай пазыкі гэтай рэспубліцы ў рамках праграмы сістэмных пераўтварэнняў, закліканай садзейнічаць эканамічнаму росту былых камуністычных краін, у памеры 97 мільёнаў долараў на правядзенне рэформ. Другая пазыка ў такой жа суме будзе выдзелена Беларусі, калі яна выканае патрабаванні МВФ, што выстаўляюцца да краін, якія сталі на шлях стварэння рыначнай эканомікі і дэмакратызацыі. "Я жадаю поўнага поспеху вашай рэспубліцы ў правядзенні пераўтварэнняў", — сказаў, у прыватнасці, Бентсан С.Шушкевічу.

# Добры пачатак з надзеяй на добрыя вынікі

**Калі нумар быў ужо падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю паступіў чарговы рэпартаж нашага аглядальніка Паўла Стасевіча, і мы прапануем яго ўвазе чытачоў.**

У амерыканскай сталіцы — змена надвор'я: саракаградусная спякота ўступіла месца прахалодзе з лёгкімі хмарамі і ветрыкам.

Пахаладала і ў Белым доме: звесткі аб смерці сябра Біла Клінтана, на жаль, пацвярджаюцца (галоўная версія — самазабойства).

З гэтай прычыны зменены і графік візіту беларускай дзяржаўнай дэлегацыі. Сустрэча Біла Клінтана са Станіславам Шушкевічам і адпаведная афіцыйная цырымонія адбудуцца, па ўсім відаць, сёння — 22 ліпеня ў другой палове дня па мясцоваму часу.

А першы дзень візіту завяршыўся прыёмам дэлегацыі ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне.

У час яго і С.Шушкевіч, і члены дэлегацыі трохі "паспавядаліся" журналістам. Галоўны сэнс інтэрв'ю. Старшыні Вярхоўнага Савета можна выказаць так: задаволенасць пачаткам і надзея на аптымістычнае заканчэнне візіту.

Асцярожнымі былі і выказванні старшыні парламенцкай Камісіі па эканамічнай рэформе Л.Козіка, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Э.Шыркоўскага і іншых.

На мой асабісты погляд, справа пакуль што ішла на ўзроўні "протокола о намерениях". Хоць, мяркую, адпаведныя пагадненні і заключная дэкларацыя будуць сёння-заўтра падпісаны.

Больш аптымізму ў старшыні Мінгарвыканкама А.Герасіменкі і кіраўніка аграрнай камісіі У.Гаркуна. Яны, відаць, застануцца ў Амерыцы яшчэ на некалькі дзён пасля ад'езду дэлегацыі, каб паставіць кропкі над "і" ў канкрэтных беларуска-амерыканскіх справах, якія рэальна высвечваюцца.

А сёння зранку, па пратаколу, сустрэча С.Шушкевіча з кангрэсменамі. Потым — Пентагон, куды адправіліся і Э.Шыркоўскі, і міністр абароны П.Казлоўскі. Мяркуецца падпісанне раней прапрацаваных пагадненняў.

Мы, журналісты, стараемся сядзець "на хвасце" ўсіх падзей. Рабіць гэта цяжка, ды і сувязь цераз акіян — рэч дарагая і складаная.

І ўвогуле Вашынгтон — горад дарагі і да таго ж сталіца. Плюс федэральны падатак у гандлі — 6 працэнтаў.

Не ведаю, ці адбудзецца сёння прэс-канферэнцыя Б.Клінтана ў Белым доме, але да яе рыхтуемся.

Па астатняй частцы візіту ўвогуле ўсё ідзе планава. Але ж спадзявацца на многае, на мой зноў жа асабісты погляд, не прыходзіцца: амерыканцы свае грошы лічыць любяць і ўмеюць, таму пакрысе вучаць гэтаму і нас.

*Вашынгтон, першая палова дня 22 ліпеня (у Мінску ўжо вечарэе...).*

*Пасля падзеі*

### Палку генералаў прыбыло

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч учора ў другой палавіне дня ва ўрачыстай абстаноўцы і ў прысутнасці журналістаў зачытаў пастанову Савета Міністраў Беларусі аб прысваенні чарговых воінскіх і спецзванняў групе кіраўнікоў МУС, пагранвойск і Міністэрства абароны.**

Ён уручыў пагоны генерал-палкоўніка ўнутранай службы міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Ягораву. Старшыні Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сем'яў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Мікалаю Чаргінцу прысвоена чарговае званне — генерал-лейтэнант унутранай службы. Пагоны генерал-лейтэнанта ўнутранай службы ўручаны таксама начальніку Акадэміі міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Уладзіміру Савічаву.

Прысутныя цёпла павіншавалі намесніка камандуючага пагранічнымі войскамі рэспублікі па аператыўнай рабоце Мікалая Астапава са званнем генерал-маёр. Генеральскія пагоны ўручаны начальніку ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны Івану Зубко і камандзіру адзінаццатай гвардзейскай асобнай механізаванай брыгады Анатолю Нікіціну.

Цёпла павіншаваўшы генералаў з іх новымі званнямі, Старшыня Савета Міністраў выказаў упэўненасць, што яны ўвесь свой багаты вопыт аддадуць справе служэння суверэннай Беларусі і яе народу.

**Белінфарм.**

*Факт*

### Польские морские ворота открыты для Беларуси

**В Варшаве объявлено о создании польско-белорусского судоходного общества.**

Решение об этом принято на последнем заседании Совета Министров Республики Польша. Учредителями общества с польской стороны является государственное казначейство в лице Министерства транспорта и судоходства, а с белорусской — Министерство транспорта и связи Республики Беларусь. Штаб-квартира новой организации будет расположена в Минске, а корабли, находящиеся в совместной собственности, приписаны к портам городов Гданьск или Гдыня.

Согласно заявлению для прессы польского министра транспорта и судоходства Збигнева Яворского, Польша могла бы стать важнейшей страной для экспорта белорусских товаров. Только порты на балтийском побережье способны ежегодно пропускать до 50 млн. тонн грузов Республики Беларусь.

По словам З.Яворского, польская сторона готова предоставить обществу 2 морских транспортных судна — "Грюнвальд" и "Гвардия людова", водоизмещение которых 10 тысяч тонн. Первоначальный вклад Беларуси определен в 1,6 млн. долларов США.

**Игорь ШАМШИН, ИТАР-ТАСС.**

### Последний "бой" для Т-62

**Беларусь продолжает неуклонно выполнять положения международного Договора по обычным вооруженным силам в Европе (ОВСЕ).**

В республике находится очередная инспекционная группа, которая зафиксирует на Борисовском танкоремонтном заводе операцию по разрезанию на металлолом последнего из 80 танков Т-62, разукомплектованных в очередном календарном периоде. Зарубежные эксперты проконтролируют еще и начало очередного периода разрезания танков и БМП в Борисове.

Как сообщили корреспонденту Белинформа в Национальном агентстве по контролю и инспекциям, уничтожение излишков боевой техники будет вестись в три этапа и завершится в ноябре 1995 года.

**Леонид ТРАЦЕВСКИЙ, Белинформ.**

*Из жизни денег*

# Рубль растаял, как утренний туман

**Виктор ЛЕЩЕНКО**

**Российские рубли в республике изымаются из денежного оборота.**

Такова суть телеграммы Национального банка.

Планируется создать резервный фонд, российские деньги из которого будут выдавать только командированным и отпускникам. Для расчетов остаются лишь рубли и трешки.

За нарушение этих правил руководителей и главных бухгалтеров предусматривается лишать права подписи, что равнозначно увольнению с работы.

Появятся ли рубли после столь суровых регламентаций — вопрос весьма проблематичный. Но коммерческие банки, предприятия уже, по-видимому, не смогут столь бесконтрольно распоряжаться наличными российскими банкнотами и тратить их на покупку, например, автомобилей, а затем твердить, что купюр для зарплаты нет.

Однако в целом телеграмма Национального банка экспертами оценивается положительно. Ее отрицательная сторона практически сведена к нулю — российскую наличку в банки давно мало кто сдает, а навести контроль за ее выдачей уже следовало бы давно. Есть только одно опасение — будет ли в полной мере выполняться данное распоряжение.

По прогнозам специалистов, лишь в третьем квартале республике понадобится дополнительно выпустить в обращение столько денег, сколько было "запущено" за все первое полугодие.

Как сообщил заместитель председателя Национального банка Александр Дмитриевич Сорокин, в июне выдача денег из банковских касс увеличилась в 3,2 раза. Денежный оборот за полгода в Беларуси вырос более чем в 10 раз. Каждый квартал денежная масса удваивается.

Сейчас из России ожидается некоторая сумма рублей по целевому назначению: на отпуска, лечение, командировки, спортивные мероприятия. А вообще республике, как известно, поставлено условие: либо парламент принимает решение о единой кредитно-денежной системе, либо...

Изъятие денег выпуска 1961—1991 годов из обращения в нашей республике вызвано аналогичными действиями России.

По словам А.Сорокина, в Беларуси на сегодня достаточный запас "зайчиков".

Почему же в банках нет российской налички, а на "черном" рынке ее достаточно? Каким будет в дальнейшем курс белорусских и российских денег? И как такое стало возможно: в едином рублевом пространстве разные курсы одного и того же рубля? Но это тема уже иной публикации.

*Як сустрэлі жніво*

### Збожжа за мяжой не напросішся

Больш чым на 70 працэнтаў да неабходнай колькасці для правядзення жніва завезці бензіну не ўдасца. Добра, калі паступіць нават столькі. Гэтага хопіць на 12 дзён работы аўтамабільнага парка. Дарэчы, у мінулым годзе бензіну хапіла на 26 дзён жніва. Між іншым, сёлета прастояў тэхнікі дапускаць проста нельга. Ураджай і так будзе ніжэйшы, чым у мінулым годзе. Далі аб сабе знаць майскі дэфіцыт вільгаці і параўнальна бедная запраўка палёў мінеральнымі ўгнаеннямі. Пад ярыну, напрыклад, іх унесена толькі 60 працэнтаў да неабходнай колькасці. А фосфарных і таго менш — адна трэць неабходнага. Адсюль і вынік...

Словам, вельмі дарагі сёлета ўраджай. У любым сэнсе. І адносіцца трэба да яго, як да самай дарагой і неабходнай рэчы. Бо збожжа за мяжой не напросішся. А там яно каштуе вельмі дорага. І проста незразумела, калі вязуць, скажам, бульбу з Італіі, а свая, параўнальна танная, гніе ў калгасах і саўгасах. Некаму гэта, безумоўна, выгадна, але, зразумела, не хлебаробам і іншым працаўнікам. Таму так важна ўсё сабраць з палёў, хаця б па мінімуму забяспечыць тыя патрэбнасці ў збожжы, якія дапамогуць сельскай эканоміцы стаць стабільнай.

**Белінфарм.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб Дзяржаўнай праграме прыватызацыі

У адпаведнасці з артыкулам 7 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць Дзяржаўную праграму прыватызацыі (прыкладаецца).

2. Пераўтварыць Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін прыняць нарматыўныя акты, неабходныя для рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі, у тым ліку аб пераўтварэнні дзяржаўных прадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы, а таксама парадак ажыццяўлення грамадзянамі Рэспублікі Беларусь гарантаванага права на атрыманне часткі бязвыплатна перадаваемай маёмасці праз укладанне ў акцыі прадпрыемстваў і інвестыцыйных фондаў.

4. Зацвердзіць, што сродкі, якія паступаюць на рахунак Дзяржаўнага камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, накіроўваюцца ім на мэты прыватызацыі і дзейнасці Камітэта.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

16 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2421-XII

***Зацверджана пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 16 чэрвеня 1993 г.***

# Дзяржаўная праграма прыватызацыі

### Агульныя палажэнні

У Дзяржаўнай праграме прыватызацыі[1], распрацаванай для выканання Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", вызначаны стратэгія развіцця працэсу пераўтварэння адносін уласнасці, мэты, задачы, прыярытэты, абмежаванні і парадак раздзяржаўлення і прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

У Дзяржаўнай праграме не рэгулюецца парадак прыватызацыі жыллёвага фонду і зямлі.

Раздзяржаўленне і прыватызацыя — найбольш важныя ўмовы пераходу да сацыяльна-арыентаванай рыначнай эканомікі.

Дзяржаўная праграма накіравана на прыватызацыю 2/3 кошту дзяржаўных асноўных фондаў прадпрыемстваў і арганізацый, пры гэтым частка прыватызуемай маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў перадаецца грамадзянам Рэспублікі Беларусь бязвыплатна на падставе прынятых заканадаўчых актаў.

У 1993 годзе належыць прыватызаваць каля 10 працэнтаў, у 1994 годзе — каля 20 працэнтаў кошту асноўных фондаў, прадугледжаных для прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый.

Дзяржаўнай праграмай намячаецца раздзяржаўленне і прыватызацыя па наступных асноўных напрамках:

разгортванне малой прыватызацыі (аб'ектаў камунальнай уласнасці);

адпрацоўка механізму прыватызацыі буйных і сярэдніх аб'ектаў, у тым ліку на базе індывідуальных праектаў, з прыцягненнем замежных інвестыцый.

Рэгуляванне працэсаў раздзяржаўлення і прыватызацыі можа таксама ажыццяўляцца шляхам зацвярджэння індывідуальных праектаў па некаторых асабліва важных аб'ектах.

### Аб'екты прыватызацыі, прыярытэты і абмежаванні

Аб'ектамі прыватызацыі з'яўляюцца:

дзяржаўныя прадпрыемствы, установы, арганізацыі[2];

прадпрыемствы, здадзеныя ў арэнду;

структурныя адзінкі аб'яднанняў і структурныя падраздзяленні прадпрыемстваў, вылучаныя ў самастойныя прадпрыемствы ў адпаведнасці з заканадаўствам;

дзяржаўная маёмасць у выглядзе абсталявання, будынкаў, іншыя матэрыяльныя і нематэрыяльныя актывы прадпрыемстваў, якія ліквідуюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам;

долі дзяржавы і адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў у маёмасці суб'ектаў гаспадарання, акцыі, якія належаць дзяржаве і адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням, за выключэннем долей, акцый, што не падлягаюць прыватызацыі ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай і іншым заканадаўствам.

Аб'ектам прыватызацыі не з'яўляецца дзяржаўная маёмасць, якая замацавана за прадпрыемствамі на правах валодання, карыстання, распараджэння ў межах, устаноўленых уласнікам і заканадаўчымі актамі, адчужаецца імі ў працэсе ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Аб'ектамі першачарговай прыватызацыі з'яўляюцца:

прадпрыемствы рознічнага гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва;

прадпрыемствы лёгкай і харчовай прамысловасці;

прадпрыемствы аўтатранспарту (за выключэннем пасажырскага);

прадпрыемствы дрэваапрацоўчай прамысловасці;

прадпрыемствы, арганізацыі будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў;

прадпрыемствы, якія ажыццяўляюць перапрацоўку сельскагаспадарчай прадукцыі, абслугоўваюць сельскагаспадарчую вытворчасць і выпускаюць прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння для забеспячэння перапрацоўкі;

стратныя прадпрыемствы ўсіх галін народнай гаспадаркі, акрамя тых, прыватызацыя якіх забаронена;

закансерваваныя аб'екты і аб'екты незавершанага будаўніцтва, па якіх тэрміны будаўніцтва звыш нарматыўных перавысілі два гады;

маёмасць ліквідаваных прадпрыемстваў пры ўмовах неперадачы яе іншым дзяржаўным суб'ектам.

Абмежаванні раздзяржаўлення і прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай маёмасці распаўсюджваюцца на аб'екты:

якія не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватазыцыі ў адпаведнасці з артыкулам 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь";

правы ўласнасці на якія павінна перадавацца толькі па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Пры іх прыватызацыі кантрольныя пакеты акцый (долі ў маёмасці) застаюцца ў дзяржаўнай уласнасці.

Пры прыватызацыі абмежаванні не распаўсюджваюцца на структурныя падраздзяленні неасноўнай дзейнасці гэтых прадпрыемстваў, калі яны тэхналагічна не звязаны з асноўнай дзейнасцю прадпрыемстваў.

Прыватызацыя канцэрнаў, асацыяцый, саюзаў і іншых аб'яднанняў як адзіных маёмасных комплексаў не дапускаецца.

### Спосабы прыватызацыі

Пры рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы выкарыстоўваюцца наступныя спосабы прыватызацыі:

пераўтварэнне дзяржаўнага прадпрыемства па ініцыятыве ўрада (пры адсутнасці заявы на прыватызацыю ў гаспадарчае таварыства, у тым ліку ў адкрытае акцыянернае таварыства) шляхам заснавання адпаведным органам прыватызацыі на базе маёмасці гэтага прадпрыемства акцыянернага таварыства з далейшым адкрытым продажам акцый. Умовы і парадак пераўтварэння вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

выкуп арандаванай маёмасці арэндным прадпрыемствам;

пераўтварэнне арэнднага прадпрыемства ў адкрытае акцыянернае таварыства шляхам прыняцця арэндным прадпрыемствам рашэння аб пераўтварэнні з пашырэннем статутнага фонду ў парадку і на ўмовах, вызначаных Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

продаж аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці на аўкцыёне, па конкурсу.

Спосаб прыватызацыі прадпрыемства вызначаецца Дзяржаўным камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі[3] і органамі прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Дзяржаўнае прадпрыемства, здадзенае ў арэнду, прыватызуецца шляхам выкупу арандаванай маёмасці, калі памеры, тэрміны, парадак і ўмовы ўнясення сумы выкупу вызначаны дагаворам арэнды да ўступлення ў сілу Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" і адпавядаюць дзеючаму заканадаўству.

Дзяржаўная маёмасць у выглядзе закансерваваных аб'ектаў незавершанага будаўніцтва, па якіх тэрміны будаўніцтва звыш нарматыўных перавысілі два гады, па рашэнню Дзяржмаёмасці ці органаў прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, як правіла, падлягае продажу на аўкцыёне, па конкурсу або іншым спосабам з улікам канкрэтных умоў і фактараў вытворчасці.

Аб'екты сацыяльнай інфраструктуры (жылыя дамы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, прафілакторыі, стадыёны і г.д.), якія знаходзіліся на балансе дзяржаўнага прадпрыемства, што прыватызуецца, могуць быць перададзены новаму ўласніку гэтага прадпрыемства бязвыплатна без права распараджэння з умовай захавання іх мэтавага выкарыстання.

Аб'екты дзяржаўнай уласнасці, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь, прыватызуюцца ў парадку і на ўмовах, вызначаных міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

### Крыніцы фінансавання прыватызацыі і напрамкі расходавання сродкаў, якія паступаюць ад яе

Кошт прыватызуемага аб'екта ўстанаўліваецца ў вызначаным парадку зыходзячы з вынікаў інвентарызацыі і рэальна дзеючых рыначных цэн або на падставе кошту замежных аналагаў.

Разлік за прыватызуемы аб'ект можа праводзіцца адначасова або ў растэрміноўку плацяжоў на ўмовах дагавора. Пры гэтым у велічыні штогадовых выплат павінны ўлічвацца змены зыходнага кошту прыватызуемага аб'екта ў залежнасці ад інфляцыі і іншых фактараў.

У якасці фінансавых крыніц для набыцця дзяржаўнай маёмасці дазваляецца выкарыстоўваць уласныя сродкі недзяржаўных юрыдычных асоб, замежных суб'ектаў, уласныя сродкі грамадзян, крэдыты банкаў і іншыя сродкі.

Умовы прыцягнення замежных інвестыцый рэгулююцца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" і Дзяржаўнай праграмай.

Крэдытаванне прыватызыцыі ажыццяўляецца банкам за кошт уласных і прыцягнутых крэдытных рэсурсаў. Пры гэтым забараняецца выкарыстоўваць крэдыты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Крэдытаванне прыватызацыі банкамі замежных дзяржаў не абмяжоўваецца.

Выдаткі на выкананне работ па прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці пакрываюцца суб'ектамі прыватызацыі па тарыфах, вызначаных Дзяржмаёмасцю.

Сродкі ад прыватызацыі рэспубліканскай маёмасці залічваюцца ў даход рэспубліканскага бюджэту. Нарматывы размеркавання гэтых сродкаў вызначаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Сродкі ад прыватызацыі камунальнай маёмасці залічваюцца ў даход бюджэту адпаведнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўтварэння. Нарматывы размеркавання гэтых сродкаў вызначаюцца мясцовым Саветам народных дэпутатаў адпаведнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўтварэння.

Парадак выплаты, размеркавання, залічэння ў бюджэт і ўліку гэтых сродкаў зацвярджаецца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь з удзелам Дзяржмаёмасці.

### Ільготы пры правядзенні прыватызацыі

Члены працоўнага калектыву, якія прымаюць удзел у прыватызацыі свайго прадпрыемства, набываюць яго маёмасць (акцыі) па цане на 20 працэнтаў менш ад сумы, падлягаючай аплаце грашамі.

Пры прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці, якія знаходзяцца на тэрыторыях, забруджаных у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў могуць устанаўлівацца дадатковыя льготы.

### Задачы органаў дзяржаўнай улады і кіравання

Праграма прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, распрацоўваецца Дзяржмаёмасцю сумесна з міністэрствамі, дзяржкамітэтамі, ведамствамі і зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Праграмы прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, распрацоўваюцца органамі прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і зацвярджаюцца адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў.

Агульнае метадычнае кіраўніцтва распрацоўкай і каардынацыя праграм прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай і камунальнай уласнасці, ажыццяўляюцца Дзяржмаёмасцю.

Аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам прадстаўляюць Дзяржмаёмасці ў вызначаныя ім тэрміны праекты, а таксама зацверджаныя праграмы прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці.

Праграмы прыватызацыі распрацоўваюцца на адзін год і павінны адпавядаць Дзяржаўнай праграме, уключаць у сябе асноўныя паказчыкі аб'ёмаў прыватызацыі ў разрэзе галін народнай гаспадаркі, чакаемыя фінансавыя вынікі, меры па арганізацыйнаму забеспячэнню гэтых праграм, а таксама іншыя паказчыкі ў адпаведнасці з патрабаваннямі органаў, якія зацвярджаюць праграму.

Пералікі дзяржаўных аб'ектаў, якія прапануюцца для прыватызацыі, складаюцца штогод пасля зацвярджэння праграм прыватызацыі.

[1] У далейшым — Дзяржаўная праграма.
[2] У далейшым — прадпрыемствы.
[3] У далейшым — Дзяржмаёмасць.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб прадпрыемствах (аб'яднаннях), арганізацыях і відах маёмасці, якія не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі

У адпаведнасці з артыкулам 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць Пералік прадпрыемстваў (аб'яднанняў), арганізацый і відаў маёмасці, што не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі, і Пералік аб'ектаў, раздзяржаўленне і прыватызацыя якіх павінны ажыццяўляцца толькі па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (прыкладаюцца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

16 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2414-XII

***Зацверджаны пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 16 чэрвеня 1993 г. N 2414-XII***

# Пералік прадпрыемстваў (аб'яднанняў), арганізацый і відаў маёмасці, якія не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі

**Прадпрыемствы (аб'яднанні), арганізацыі і ўстановы, якія займаюцца:**

распрацоўкай, вытворчасцю, рамонтам і рэалізацыяй узбраення, ваеннай тэхнікі (уключаючы асобныя вытворчасці, цэхі, участкі), а таксама навукова-даследчыя, праектныя і доследна-канструктарскія арганізацыі, што ажыццяўляюць работы ва ўказаных галінах;

распрацоўкай, вытворчасцю, рамонтам і рэалізацыяй выбуховых рэчываў і вырабаў з іх прымяненнем;

вытворчасцю і рэалізацыяй бактэрыялагічных, псіхатропных, наркатычных, моцнадзеючых і ядавітых рэчываў, медыкаментаў для сельскай гаспадаркі;

вырошчваннем, перапрацоўкай і збытам культур, што ўтрымліваюць наркатычныя і ядавітыя рэчывы;

здабычай, перапрацоўкай руд каштоўных металаў, камянёў, бурштыну, радыеактыўных і рэдказямельных элементаў;

вытворчасцю этылавага харчовага спірту, віна, лікёра-гарэлачных і тытунёвых вырабаў;

выпускам казначэйскіх, банкаўскіх білетаў, манет, ордэнаў, медалёў і знакаў паштовай аплаты.

Лячэбна-прафілактычныя і дзяржаўныя санаторна-курортныя ўстановы, якія займаюцца лячэннем хворых, што пакутуюць ад небяспечных і асабліва небяспечных інфекцыйных (уключаючы СНІД, венерычныя і заразныя скурныя захворванні), анкалагічных і псіхічных (у агрэсіўных формах) захворванняў, а таксама медыцынскай экспертызай.

Спецыялізаваныя прадпрыемствы па вырабу, скупцы, рамонту, рэалізацыі вырабаў з каштоўных металаў і камянёў.

Эксплуатацыйныя прадпрыемствы сувязі.

Аб'екты інжынернай інфраструктуры (электра-, цепла- і газазабеспячэння, водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі, вулічнага гарадскога асвятлення) і знешняга добраўпарадкавання гарадоў, прадпрыемствы, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю, абслугоўванне, утрыманне і рамонт указаных аб'ектаў, а таксама прадпрыемствы па санітарнай ачыстцы гарадскіх тэрыторый, па камплектацыі, наладцы і абслугоўванню ліфтаў.

Прадпрыемствы (аб'яднанні) і ўстановы санітарна-эпідэміялагічнай і ветэрынарнай службы, службы аховы раслін, лясной гаспадаркі, па каранціну раслін, па ахове, вырошчванню і ўзнаўленню рыбных запасаў.

Селекцыйна-гібрыдныя цэнтры, племптушкафабрыкі, племптушкарэпрадуктары, дзяржаўныя сортавыпрабавальныя станцыі, дзяржаўныя племянныя гаспадаркі і прадпрыемствы, кантрольна-доследныя станцыі племянных жывёл, зверагадоўчыя прадпрыемствы.

Навукова-даследчыя і праектна-канструктарскія інстытуты, сельскагаспадарчыя доследныя станцыі, вучэбна-доследныя, насенняводчыя і эксперыментальныя гаспадаркі, прадпрыемствы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

Хлебныя базы Міністэрства хлебапрадуктаў Рэспублікі Беларусь, што захоўваюць дзяржаўныя рэсурсы збожжа і прадукты яго перапрацоўкі.

Дзяржаўныя страхавыя арганізацыі.

Паліграфічныя прадпрыемствы, што знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, выдавецтвы, міжвыдавецкі фотацэнтр.

Рэспубліканскае і мясцовае тэлебачанне, радыёвяшчанне, уключаючы кабельнае тэлебачанне.

Аб'екты грамадзянскай абароны (за выключэннем ахоўных збудаванняў).

Дзяржаўная маёмасць, што знаходзіцца ў веданні Галоўнага ўпраўлення па дзяржаўных матэрыяльных рэзервах пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і падведамных яму камбінатаў.

Асноўныя фонды, якія адносяцца да мабілізацыйных магутнасцей, а таксама і мабілізацыйныя запасы (пры прыватызацыі выключаюцца з маёмаснага комплексу).

Палігоны, будынкі, збудаванні і абсталяванне для захавання цвёрдых прамысловых адходаў, бытавых адходаў, жывёльныя могільнікі, прадпрыемствы па перапрацоўцы цвёрдых бытавых адходаў.

Спецыялізаваныя прадпрыемствы па захаванню радыеактыўных адходаў.

Прадпрыемствы па эксплуатацыі водагаспадарчых, ачышчальных і меліярацыйных сістэм і збудаванняў, а таксама аб'екты гэтых сістэм.

Прадпрыемствы і ўстановы геалагічнай, тапографа-геадэзічнай, картаграфічнай, гідраметэаралагічнай службаў і службы кантролю за станам прыроднага асяроддзя.

Прадпрыемствы патэнтнай службы, стандартызацыі і метралогіі, машынавыпрабавальныя станцыі.

Навукова-даследчыя ўстановы, прадпрыемствы, арганізацыі, падведамныя Акадэміі навук Беларусі і Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь.

Агульнаадукацыйныя школы, навучальныя ўстановы ўсіх тыпаў, уключаючы абслугоўваючыя іх інтэрнаты і падраздзяленні грамадскага харчавання, дзіцячыя дашкольныя ўстановы.

Арганізацыі і ўстановы сацыяльнай абароны насельніцтва: дзіцячыя дамы, дамы дзіцяці, дамы для састарэлых, інтэрнаты, шпіталі і санаторыі для інвалідаў, дзяцей і састарэлых, Беларускі пратэзна-артапедычны аздараўленчы цэнтр і яго прадпрыемствы.

Аўтамабільныя дарогі агульнага карыстання і арганізацыі, што ажыццяўляюць іх утрыманне.

Прадпрыемствы чыгуначнага, авіяцыйнага, трубаправоднага транспарту.

Метрапалітэн і гарадскі электрычны транспарт.

Спартыўныя базы і збудаванні, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці.

Камбінаты надомнай працы, дзе прымяняецца праца інвалідаў, вучэбна-вытворчыя прадпрыемствы таварыстваў сляпых, глухіх.

Аб'екты і прадпрыемствы лячэбна-вытворчых і папраўчапрацоўных устаноў.

Маёмасць рэстаўрацыйных, вытворчых і праектных арганізацый і прадпрыемстваў Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўныя музеі, бібліятэкі.

Дзяржаўныя тэатральна-відовішчныя ўстановы.

Крэматорыі і могілкі.

* У асобных выпадках з улікам спецыфікі і аб'ёмаў вытворчасці ўзбраення, ваеннай тэхнікі і камплектуючых да іх рашэнне аб прыватызацыі такіх аб'ектаў прымаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

*Закон Республики Беларусь*

# Об именных приватизационных чеках Республики Беларусь

Настоящий Закон устанавливает порядок эмиссии и обращения именных приватизационных чеков Республики Беларусь, их использования в период безвозмездной приватизации государственной собственности в Республике Беларусь, государственные гарантии их владельцам.

**Статья 1. Именной приватизационный чек Республики Беларусь**

Именной приватизационный чек Республики Беларусь* является государственной именной ценной бумагой Республики Беларусь, выпущенной на срок, установленный Верховным Советом Республики Беларусь.

Приватизационный чек обеспечен государственной собственностью, подлежащей безвозмездной передаче гражданам Республики Беларусь, свидетельствует о праве его владельца на долю в приватизируемой государственной собственности и выражает размер этой доли (квоту).

Приватизационный чек в соответствии с его целевым назначением имеет обозначение "Жилье", "Имущество".

**Статья 2. Законодательство Республики Беларусь о приватизационных чеках**

Деятельность, связанная с эмиссией, обращением и использованием приватизационных чеков, регулируется настоящим Законом и иным законодательством Республики Беларусь.

**Статья 3. Право на получение приватизационных чеков**

Приватизационные чеки получают только граждане Республики Беларусь на сумму чеков, соответствующую их квоте в безвозмездно передаваемой государством собственности.

Граждане Республики Беларусь, постоянно проживающие на момент введения настоящего Закона в действие за пределами территории республики, если это не связано со служебными обязанностями, воинской службой, учебой или лечением, не имеют права на получение приватизационных чеков.

**Статья 4. Право на приобретение приватизационных чеков**

Правом на приобретение приватизационных чеков обладают все субъекты приватизации, определенные в статье 4 Закона Республики Беларусь "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь".

**Статья 5. Реализация права на получение и приобретение приватизационных чеков**

Граждане Республики Беларусь реализуют право владения приватизационными чеками путем их получения или приобретения в соответствии с настоящим Законом и иным законодательством о приватизации.

Интересы несовершеннолетних детей, ограниченных в дееспособности лиц и недееспособных граждан по реализации права на получение и приобретение приватизационных чеков представляют их законные представители (родители, попечители, опекуны и другие лица).

Порядок представления и защиты интересов несовершеннолетних детей, находящихся на государственном обеспечении, при получении и приобретении приватизационных чеков определяется законодательством Республики Беларусь.

**Статья 6. Номинальная стоимость чека**

Размер доли (квоты) государственной собственности, приходящейся на каждого гражданина Республики Беларусь, выражается суммой чеков, определенной в соответствии со статьей 7 настоящего Закона.

Номинальная стоимость одного чека определяется Советом Министров Республики Беларусь исходя из общей стоимости приватизируемой государственной собственности, безвозмездно передаваемой гражданам Республики Беларусь, и общего количества чеков, причитающихся всем гражданам Республики Беларусь.

При переоценке стоимости государственной собственности, подлежащей безвозмездной приватизации, стоимость неиспользованного чека индексируется в той же пропорции.

**Статья 7. Порядок определения сумм чеков, получаемых гражданином Республики Беларусь**

Квота, зачисляемая на приватизационный чек "Жилье", определяется в соответствии с Законом Республики Беларусь "О приватизации жилищного фонда в Республике Беларусь". Полученные и не использованные по целевому назначению чеки "Жилье" пересчитываются в соответствии с коэффициентом их эквивалентного перевода и используются в соответствии со статьями 11 и 13 Закона Республики Беларусь "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь".

Сумма чеков "Имущество", выдаваемая гражданину Республики Беларусь, устанавливается в зависимости от его трудового стажа и возраста, которые определяются на момент введения настоящего Закона в действие и подтверждены документами.

Приватизационные чеки "Имущество" выдаются лицам:

старше 35 лет — 50 чеков;

в возрасте от 30 до 35 лет — 40 чеков;

в возрасте от 25 до 30 лет — 30 чеков;

в возрасте от 16 до 25 лет — 20 чеков;

инвалидам I и II групп из числа военнослужащих и вследствие общего заболевания (кроме случаев, когда инвалидность наступила в результате их противоправных действий), а также инвалидам I и II групп с детства независимо от их возраста — 50 чеков;

инвалидам Великой Отечественной войны и к ним приравненным, а также инвалидам вследствие трудового увечья или профессионального заболевания независимо от возраста — 50 чеков;

родителям (одному из них) на каждого ребенка, которому не исполнилось 16 лет, — 10 чеков, а в случае смерти или лишения родительских прав одного из родителей — 30 чеков;

на каждого ребенка, оставшегося без родительской опеки и находящегося в опекунской (приемной) семье, доме семейного типа или в детском интернатном учреждении, его законному представителю — 50 чеков.

К исчисленной таким образом сумме чеков добавляются чеки, получаемые гражданами в зависимости от трудового стажа, в соотношении: за один полный календарный год стажа — один чек.

Дополнительно начисляются:

инвалидам Великой Отечественной войны и к ним приравненным, а также инвалидам вследствие трудового увечья или профессионального заболевания, если их трудовой стаж менее 30 лет, — 30 чеков;

участникам Великой Отечественной войны — 15 чеков, а приравненным к ним гражданам и гражданам, необоснованно репрессированным по политическим мотивам в период репрессий 20—80-х годов, а затем реабилитированным, — 10 чеков;

владельцам вкладов в учреждениях Сберегательного банка по состоянию на 1 января 1991 года в порядке и размерах, определенных Советом Министров Республики Беларусь.

При возникновении споров о продолжительности трудового стажа сумма чеков, получаемых гражданами за бесспорную часть стажа, выдается до разрешения спора, остальная сумма выдается по итогам разрешения спора.

**Статья 8. Эмиссия приватизационных чеков**

Эмиссия приватизационных чеков Республики Беларусь "Жилье" и "Имущество" осуществляется Советом Министров Республики Беларусь единовременно.

**Статья 9. Бланки приватизационных чеков**

Вид бланка приватизационного чека, порядок изготовления и выдачи устанавливаются Советом Министров Республики Беларусь.

На бланке приватизационного чека Республики Беларусь указывается целевое назначение приватизационного чека.

Порядок хранения и учета бланков приватизационных чеков определяется Советом Министров Республики Беларусь.

**Статья 10. Выдача и переоформление приватизационных чеков**

Выдача приватизационных чеков производится по территориальному принципу банковскими учреждениями на основании заявления гражданина Республики Беларусь. Перечень банков, осуществляющих выдачу, устанавливается Советом Министров Республики Беларусь.

Выдача приватизационных чеков производится по спискам, утвержденным местными Советами народных депутатов первичного уровня.

Владельцы приватизационных чеков вправе произвести их переоформление с целью разделения, объединения, передачи другому лицу или по другим основаниям, определенным законодательством Республики Беларусь.

Изменение целевого назначения приватизационного чека осуществляется на основании Закона Республики Беларусь "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь", для чего производится его переоформление.

Переоформление приватизационных чеков взамен сдаваемых осуществляется по месту выдачи на основании письменного заявления владельца после проверки подлинности приватизационного чека. При этом банковские учреждения, обладающие правом выдачи приватизационных чеков, обязаны принять их для переоформления. Переоформление чеков производится в двухнедельный срок с момента обращения владельца.

При выдаче и переоформлении приватизационных чеков взимается государственная пошлина.

**Статья 11. Использование приватизационных чеков**

Граждане Республики Беларусь, имеющие право владения приватизационными чеками, могут:

продавать (полностью или частично) принадлежащие им чеки с обязательным переоформлением в соответствии с частью пятой статьи 10 настоящего Закона;

передавать чеки в распоряжение доверенного лица или организации на договорных условиях;

перечислять чеки на счета специализированных инвестиционных фондов, имеющих лицензию на работу с ними;

использовать чеки при приобретении приватизируемых государственных объектов (акций, долей, паев в имуществе таких объектов);

наследовать и завещать чеки в установленном законодательством Республики Беларусь порядке. Приватизационные чеки используются владельцами в соответствии с их назначением, установленным Законом Республики Беларусь "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь", в качестве средства оплаты при приобретении в собственность объектов, подлежащих приватизации, или доли в имуществе этих объектов.

**Статья 12. Обращение приватизационных чеков**

Обращение приватизационных чеков регулируется законодательством Республики Беларусь.

Контроль за обращением приватизационных чеков осуществляет Государственная инспекция по ценным бумагам Республики Беларусь.

**Статья 13. Государственные гарантии владельцам приватизационных чеков**

Государство гарантирует владельцам приватизационных чеков и посредникам свободу распоряжения ими и использование их в соответствии с Законом Республики Беларусь "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь" и настоящим Законом.

По истечении срока обращения приватизационных чеков не использованные владельцем чеки могут быть предъявлены для погашения по месту выдачи или Национальному банку Республики Беларусь. Государство гарантирует гражданину Республики Беларусь — владельцу погашаемых чеков — выплату компенсации в пределах сумм чеков, полученных им в соответствии со статьей 7 настоящего Закона, и их стоимости на момент окончания выдачи по Республике Беларусь.

Государство обеспечивает хранение документов, на основании которых происходит выдача, переоформление, обращение и использование приватизационных чеков, в течение сроков, необходимых для разрешения имущественных споров.

**Статья 14. Ответственность за нарушение законодательства о приватизационных чеках**

Сделки, связанные с использованием, переоформлением и обращением приватизационных чеков, заключенные с нарушением настоящего Закона и иного законодательства Республики Беларусь, признаются недействительными.

Споры по выдаче, переоформлению, обращению, использованию и погашению приватизационных чеков рассматриваются в суде. Дела о правонарушениях, касающихся исчисления стажа, рассматриваются судьей единолично по заявлениям (жалобам) любых заинтересованных лиц или по инициативе прокурора.

Должностные лица, препятствующие своими незаконными действиями правомерной выдаче, переоформлению, обращению, использованию и погашению приватизационных чеков, несут дисциплинарную, административную и уголовную ответственность в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

**Председатель Верховного Совета Республики Беларусь**
**С.ШУШКЕВИЧ.**

7 июля 1993 г.
г.Минск.
№ 2468—XII

* В дальнейшем — приватизационный чек.

